© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# Мутацыі рэжыму

Зьмены прадказваліся. Не вялося пра ўнутраную трансфармацыю, пра пошук нейкага балянсу. Але ў рэалізацыі самых абсурдных памкненьняў рэжым зайшоў надта далёка, паставіўшы пад пагрозу сваё далейшае існаваньне.

Ужо й крамлёўская брама зачынілася — да гэтага прывяла арыентацыя на перамогу Зюганава і ўезд у Крэмаль Лебедзя. Пры састарэлым прэзыдэнце Расеі стаўкі Лебедзя павялічыліся, і ён ужо ня пусьціць менскага "аб'яднальніка" на пэрспэктыўна-вакантнае месца. І праграма, і рыторыка для савецкага чалавека ў Лебедзя больш моцная, чым у А.Лукашэнкі. Посьпехі ў інтэграцыі з Расеяй пры аднačасовым правядзеньні антыельцынскай палітыкі вельмі вялікія — ў той жа дзень, калі Старшыня Дзяржжумы заяўляе ў Менску, што "беларусы й расейцы перасталі быць іншаземцамі", зьяўляюцца паведамленьні ў беларускім друку пра ўвядзеньне Расеяй мытных пошлінаў на імпартаваньня зь Беларусі аўтамабілі.

Нейкія незразумелыя для рэжыму рэчы пачалі адбывацца ўнутры краіны. На менскіх вуліцах ажыў асфальт. Больш жорсткія паводзіны даюць адваротны эфэкт, а ўсе лёзунгі пераўтвараюцца ў труху. Панславісцкія лёзунгі сталі ўспрымаюцца як траскатня, іхні далейшы лёс — павольнае перацяканьне ў новую дзяржаўную дактрыну ў якасьці малазначнай фразэалёгіі.

Дзе тыя дарадцы, што нараілі Аляксандру Лукашэнку палітыку апошніх шасьці месяцаў? Бліжэйшым часам мы станем сьведкамі адставак ды накіраваньня ў новыя беларускія пасольствы былых уплывовых палітыкаў. Ужо ў суботнім нумары "Советской Белоруссии" — друкаванага органа Адміністрацыі прэзыдэнта, у рэдакцыйным артыкуле можна было прачытаць: «Цяпер відавочна, што, расчараваўшыся ў "маладых інтэлектуалах" А.Р.Лукашэнка напэўна памыліўся і ў многіх "выпрабаваных кадрах", якіх вымушаны быў запрасіць у адміністрацыю і ўрад, каб запоўніць вакуум».

І вось, каб самазахавацца, рэжым прымае канцэпцыю дзяржаўнасьці. Маючы абмежаваньні ў экстэнсіўным пашырэньні, даводзіцца адстойваць ужо захопленую тэрыторыю. Гэта менавіта мутацыя зьнешняй формы, інфраструктуры, прапагандысцкай тэрміналёгіі. Мутацыя таго аморфнага дзяржаўнага мэханізму, у якім існуе толькі адзін стрыжань — улада аднаго чалавека.

Што ж будзе заўтра, калі на службе рэжыму апынецца палова нашых знаёмых? А беларускі антураж ужо патрабуецца, ужо каштоўны. Пяцідзесяцігодзьдзе Ўладзімера Някляева раптам стала прадметам увагі з боку адміністрацыі прэзыдэнта.

Цяпер шмат у чым робіцца зразумелым сацыял-дэмакратычны сюжэт. Лідары Грамады неаднаразова выказвалі жаданьне супрацоўніцтва з рэжымам. Была створана адпаведная ідэалягічная база такога супрацоўніцтва — Мікола Статкевіч неаднаразова ў сваіх інтэрвію, у тым ліку для "НН", казаў, што "пры іншых абставінах ён (А.Лукашэнка) мог быць нацыяналістам". Наколькі я разумею сувязь паміж ідэалягічнымі пастулятамі й палітычнай тактыкай, то, мне здаецца, што такі выбар А.Лукашэнкі на карысьць нацыяналізму ў якасьці тактыкі быў бы гістарычнаю паразаю нацыяналізму на гэтым этапе. Фраза "Гэты чалавек дамагаецца толькі ўлады" — зямная мэтафара інфэрнальнасьці.

Да апошняга часу нацыянальная ідэалёгія грунтавалася на лёзунгах дзяржаўнасьці. Цяпер рэжым робіць на карысьць дзяржаўнасьці свой выбар. Ахоўваючы прынцып дзяржаўнасьці, шмат якія прадстаўнікі беларускага грамадзтва гатовыя прымірыцца з рэжымам. Некаторыя, як сацыял-дэмакраты, спадзяюцца быць найхітрэйшымі.

Але няўжо мы — тыя, хто мае справу з вольным беларускім словам, хто прадукуе беларускую гуманістыку, хто цэніць ня толькі катэгорыю дзяржавы, але й беларускага грамадзтва, гатовыя задаволіцца ранейшай тэзаю "Абы дзяржава!" Няўжо мы зьмірымся з выродлівым вобразам гэтае дзяржавы, зь яе аўтарытарызмам і антыэстэтычнасьцю.

Такім чынам паўстае праблема мадэрнізацыі нацыянальнай ідэалёгіі. Беларуская думка павінна ацаніць рэаліі й прыўнесьці новыя ці ажывіць старыя базавыя прынцыпы беларускага сьветапогляду. Гэты сьветапогляд павінен патрабаваць ад беларускай дзяржавы павагі да фундамэнтальных правоў грамадзянаў, эўрапейскага выбару, адмовы ад разбуральнай эстэтыкі.

**Алег Дзярновіч**

НАША НІВА

"Наша Ніва"
незалежны тыднёвік

заснаваны ў 1906, адноўлены ў 1991
заснавальнік і выдавец Павал Жук
рэдактар Сяргей Дубавец
адказны сакратар Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі
навіны Уладзімер Бараніч
рэдактар дадатку "Інфарматар" Андрэй Лапцёнак
макет Віктар Корзун
дызайн і вёрстка Лявон Раманчык
набор Таццяна Чуйвід
стыль і карэктура Антон Кузьміч пры ўдзеле Сяргея Шупы
прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі Зьміцер Бартосік (тэл. 56-94-36)
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ
220123 Менск, а/с 71
Тэл./факс 239-78-49
Падпісны індэкс 63125

Н а т а л ь л я Б а б і н а

# Ты, як і я...

Ты, як і я, уважаеш, што зьява сьветабудовы, якая абазначаецца словам "справядлівасьць" – існуе. Ты амаль увесь сьвет пабачыў на свае вочы – а я днямі выпраўляюся ў Львоў. Ты, як і я, танцуеш падэспань з бабуляй у Заказанцы. Ты, як і я, спэцыяліст па болю: мы з табой, бадай, ведаем усе ягоныя гатункі. Амаль адразу пасьля таго, як мы навучыліся чытаць ды пісаць па-расейску, боль ужо не пакідаў нас. Ты адчуваў боль, калі зямлю – пасаг тваёй бабулі – аддалі пад дачы ваенным будаўнікам. Боль біўся ў табе, калі я казала: наш народ вымірае – мы апошнія з заказанцаў – мы крочым да эміграцыі ў шызафрэнію або гарэлку. А потым боль дасягнуў верху: воляю лёсу ты, як і я, трапіў у Бараўляны і пабачыў надпіс на дзьвярох: "Дзіцячае анкалягічнае аддзяленьне". І пачуў плач. Пасьля гэтага боль ад гумовай палкі ды рэзь уваччу ад газу, пэўна, падаліся табе не такімі ўжо й моцнымі.

Твой дзед, як і мой, меў гарачы нораў, і ў спрэчках перш заўсёды хапаўся за вілы, а ўжо потым разьбіраўся, што да чаго. Куды, на якія старонкі пераліўся гэты імпэт, дзе ён дзеўся ў цябе і ў мяне? Ты, як і я, кажаш "прабачце", калі цябе выпадкам штурхануць у мэтро.

Ты, як і я, шукаеш раю, наперад ведаючы вынік пошукаў.

Браце мой, дзе тыя вілы, за якія нам трэба хапацца зараз?

Ты гаворыш: кожны мае рабіць сваю справу; жыць паводле сумленьня; быць шчасьлівым. А я кажу: хіба ў 33-м годзе ў Нямеччыне мала было сумленных прафэсіяналаў? А ў 45-м у Польшчы, Вугоршчыне, Баўгарыі?

Паўстае фашызм; гэтыя камякі гною ўваўсю вылятаюць з радыё ды з газэтаў – што прэзыдэнту мала ўлады, мала часу... Дзе тыя вілы, браце? Ты, як і я, ведаеш, што калі справа тычыцца ўлады, вынікі "галасаваньняў" падтасоўваюцца.

Мяне, як і цябе, не пакідае ўражаньне, што мы павінны зрабіць нейкі звышвысілак – перайсьці з абароны ў наступ, перахапіць ініцыятыву, пралічыць дзеяньні на сем хадоў наперад – называй гэта як хочаш, толькі скажы, ЯКІ гэта мусіць быць звышвысілак? У якім напрамку? Дзе яны, вілы нашага дзеда? Калі іх ня знойдзецца пад рукой, то, не пакідае мяне ўражаньне, ужо восеньню мы наўрад ці зможам рабіць сваю справу, жыць паводле сумленьня, быць шчасьлівымі...

Ты, як і я, хочаш дзейнічаць, каб фашызм у Беларусі не паўстаў. Ці скажаш мне, як? Я табе гэтага сказаць не магу.



# Гістарычны рарытэт

У мінулую пятніцу быў вынесены першы прысуд сярод шэрагу палітычных справаў найноўшай беларускай гісторыі. Віцэ-прэзыдэнт беларускай Партыі Аматараў Піва Андрэй Рамашэўскі быў асуджаны на два гады зьняволеньня з адтэрміноўкай выкананьня прысуду выпрабавальным тэрмінам у адзін год, паводле артыкула 201-2 крымінальнага кодэксу Беларусі – злоснае хуліганства.

А.Рамашэўскі – адзін зь лідараў немалой часткі той менскай моладзі, якая гэтай вясной "выйшла на барыкады". Ён быў асуджаны за "асаблівы цынізм", які выявіўся ў тым, што "24 траўня 1995 году начапіў сьцяг БССР на будынак грамадзкай прыбіральні".

Сам па сабе суд меў некалькі адметных момантаў. Судзьдзя, напрыклад, папярэдзіў усіх, што ЛЮБОЕ дзеяньне прысутных у залі можа быць расцэненае як непавага да суда. Таму, пасьля таго, як ён выгнаў аднога хлопца за тое, што той моўчкі пасьміхаўся, заля досыць сур'ёзна ўспрыняла пагрозу аб магчымасьці арышту ўсіх прысутных на 15 сутак.

Былі й вясёлыя моманты. Напрыклад, сьведка Вяроўкін запатрабаваў для сябе перакладчыка, які ўрэшце дапеакладаўся да таго, што пытаньне "ці прымае сьведка склад суда, і ці не жадае ён якіх-кольвек заменаў?" пераклаў як "ці падабаецца Вам асабіста судзьдзя?" Зрэшты, сам працэс я б акрэсьліў як хрэстаматыйна-савецкі. Судзьдзі й пракурор увесь час спрабавалі зрабіць зь сьведкаў шкадлівых шкаляроў, і асаблівы акцэнт пры гэтым рабілі на маральна-ПАЛІТЫЧНЫ аспэкт здарэньня.

Напрыканцы працэсу суд патлумачыў прававыя падставы для вынясеньня такога жорсткага, ў параўнаньні з ўчынкам Рамашэўскага, прысуду. Высьветлілася, што зачапіўшы сьцяг БССР на будынак грамадзкай прыбіральні, Андрэй Рамашэўскі ў цынічнай форме абразіў нацыянальныя пачуцьці вялікай часткі беларускіх грамадзянаў, паколькі "сярпасты-малаткасты" зьяўляецца неад'емнай часткай беларускай гісторыі. За зачапленьне якіх яшчэ "неад'емных частак беларускай гісторыі" можна быць асуджаным паводле крымінальнага кодэксу РБ? Пэўна, мін'юст мусіць выдаць адмысловы сьпіс сваіх асабістых гістарычных рарытэтаў. Інакш неўзабаве здарыцца, што вымавіўшы публічна "Сталін – кат", любы грамадзянін зможа зарабіць свой тэрмін у вязьніцы.

**Севярын Квяткоўскі**

## П о ш т а

Шаноўная рэдакцыя!

Я, як сталы падпісчык Вашае газэты ад самага пачатку, зь вялікім задавальненьнем прачытаў у апошнім нумары матэрыял А.Сідарэвіча пад назовам "Нельга быць адначасова стопрацэнтным лібэралам і сацыял-дэмакратам".

На гэта я магу адказаць коратка, адным сказам. Таксама нельга аднaчасова быць стопрацэнтным сацыялістам (і марксістам) і сацыял-дэмакратам. Бо сп. Сідарэвіч неаднаразова называў сябе сацыялістам і марксістам і яго тытанічная праца па зьнішчэньні сёньняшняй Грамады цалкам зразумелая. Аднак справа яшчэ далёка ня скончаная, і я прашу Вас азнаёміць чытачоў "Нашай Нівы", якія пільна сочаць за падзеямі ў БСДГ, з апошнімі дакумэнтамі Фракцыі па захаваньні Грамады.

З павагай, Ваш чытач і падпісчык
Алег Трусаў

*Ад рэдакцыі: Мы гатовыя пазнаёміць са зьместам дзейнасьці Фракцыі, але ў газэтным жанры (гутарка, артыкул і г.д.); дакумэнты публікуюцца ў "НН" толькі як ілюстрацыі, у якіх форма раўназначная зьместу або важнейшая за яго.*

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



пяваючы «Recorderas estos dias felices...»[4] выправілася ў форт, і таму немчуру проста ў вочы сказала: «Так і так, Фрыцу, ты сам сябе выкрыў; ты тут ваяваў, жыдоў страляў, а іх золата закопваў у фарце, а цяпер вярнуўся па яго. Хіба ты ня ведаеш, што мой муж на сухоты хварэў, бо ў Аўшвіцы сядзеў, а я нацыстаў з маленства за кіломэтар чую». Немцу нічога не заставалася, як зьбіраць манаткі. Справядлівасьць!

22 чэрвеня апошнімі Ганьку бачылі ўнукі. Слаўная цётка села ў аўтобус першага маршруту, каб ехаць у горад. Пра далейшае перадало іхняе радыё, і нешта там мне незразумела: нібыта скандальная ўдзельніца фашысцкіх канспірацыяў падставіла падножку вэтэрану, і, «пользуясь роскошностью своего тела, повергла убеленного сединами ветерана наземь». Гэта выклікала абурэньне пасажыраў, і арышт толькі выбавіў яе ад справядлівага гневу.

А ўчора яна патэлефанавала маёй сястры ўжо з Варшавы. Яе выперлі з пышнае краіны, з гнюснае дзяржавы. «Перадайце майму стрыечнаму пляменьніку, што заўтра яго арыштуюць. Скажыце яму: ня ён першы, ня ён апошні. І нагадайце яму, што «В саду гуляла, квыткі збырала»[5] сьпявацца «molto, molto allegro».

Тут на лініі нешта забзюмкала, забжучала і, нарэшце, запікала.

*[1] Якія цыцкі! (фр.)*

*[2] Сам такі (фр.)*

*[3] ... тры жаданьні*
*дзьве рэўнасьці*
*два цені на бурштыне*
*ці застанецца згадка пра бярозавы сок на маіх губах*
*яшчэ ўчора адзіны цень піў да дна тваю ганарлівую абыякавасьць*
*Ганька Ганька я хачу застацца адзіным, хто ласуецца тваімі аркадзкімі суніцамі*
*авальнымі*
*палескімі або палінэзійскімі*
*якая розьніца (падрадкоўны пераклад).*

*[4] Згадаеш ты шчасьце дзён тых гарачых...*

*[5] Палескі гімн (сл. Лёніка Н., муз. народная): В саду гуляла, квыткі збырала, кого любыла, прычаровала. Прычаровала сэрцэ і душу, тэпэр до нэі ходыты мушу. Ходыты мушу, любыты буду, скажу поправді, брэхать нэ буду. — Дівчыно гарна, дівчыно пышна, чого до мэнэ вчора нэ вышла? — А я нэ выйду, з тобой нэ встану, прышлю я сэстру такую саму. А я з сэстрою всю ніч простояв — нэ та розмова, шчо із тобою. Нэ та розмова, нэ тыйі словы, нэ білолычка, нэ чорноброва. В саду гуляла, квыткі збырала, мэнэ навікі прычаровала.*

# чымасьці...»

ўспамінала, што ў фашысцкіх пісалася амаль даслоўна: «Arbeit macht frei». Рэжымы дзяліліся досьведам, насьледавалі адзін аднаму, разьвівалі дасягнутае. Канцлягеры, газавыя камэры, расстрэлы закладнікаў першым увёў Ленін. Гітлер давёў гэта да дасканаласьці... Адзін «вождь» або «фюрэр», адна партыя, адзін народ, барацьба з абстракцыянізмам, любоў да пампэзнасьці й вялізных статуяў мускулістых рабочых і сялянак. Нават сьцягі ў фашыстаў і камуністаў Геніюш бачыла аднолькавыя — чырвоныя! З той толькі розьніцай, што ў першых на чырвані была паганская свастыка, а ў другіх — сатанінскі знак зоркі. Больш таго! Зь Менску слалі аднолькавыя першамайскія прывітаньні ад беларускага народу: дарагому Сталіну (да і пасьля акупацыі) і дарагому Гітлеру (у часе акупацыі). Нават бацькапрадаўца Паўлік Марозаў у іх быў адзін, толькі ў Нямеччыне меў нямецкае імя.

Не прымаючы як камунізм, так і фашызм, Ларыса Геніюш падтрымоўвала нармальныя чалавечыя адносіны з шараговымі членамі партыяў, разумеючы, што сыстэмы прымусам уцягвалі ў свае мярэжы і добрых людзей. Так, у «Споведзі» мы знаходзім добрыя словы і пра нямецкіх лекараў у Празе, якія былі змушаны супрацоўнічаць з фашызмам, і пра савецкіх франтавікоў і партызанаў.

Ларыса Геніюш ніколі не была грамадзянкай БССР і СССР. Не прымала савецкага падданства сьвядома, бо лічыла б гэта здрадай Беларускай Народнай Рэспублікі, грамадзянкай якой лічыла сябе да апошніх дзён жыцьця.

# Круглы год

## *Зборнік хоку беларускіх паэтаў*

*Хоку — паэтычная тэлеграма.*
*Рамон Гомэс дэ ля Сэрна*

Існуе безьліч паэтычных формаў, і кожным разам паэт выбірае адну-адзіную, каб менавіта ў яе пераліць уласныя пачуцьці. І можна ўявіць, як нячаста некалькі розных паэтаў абіраюць падобную форму і працуюць у ёй. Для эўрапейцаў традыцыйна абранымі былі трыялеты, актавы, санэты, але ў дадзеным выпадку мы прадстаўляем зборнік хоку «Круглы год».

Хоку — трохрадкоўе, якое бярэ выток у японскім вершаскладаньні. Разам з рубаі і танка хоку — гэта прыклад усходняй вершаванай мініятуры. Хоку пісалі вялікія старажытныя японскія паэты Басё, Бусон, Іса. У XX ст. гэтай мініятураю захапляліся Сікі, Кёсі, Дакоцу... Папулярнасьць хоку выйшла за межы Японіі, трохрадкоўі пішуцца ва ўсім сьвеце. Да прыкладу, выдатныя хоку па-гішпанску складаў знакаміты аргентынец Хорхе Луіс Борхес:

*

Вось мая рука,
Што некалі кранала
Твае валасы.

Зборнікі хоку выдавалі паэты ў Францыі і ў Эстоніі. Што тычыцца тутэйшых умоваў, дык кніга хоку беларускіх паэтаў была падрыхтаваная яшчэ ў 1986 годзе, але не знайшла выдаўца, бо ў БССР нават нязвыклая форма ўспрымалася як дысыдэнцтва.

Кожная кветка красуе ў свой час. Праца над зборнікам паціху працягвалася. У пэрыядычным друку зьявіліся публікацыі хоку. Побач друкавалася шмат іншых трохрадкоўяў і мініятур, сярод якіх вылучаліся сваёй сацыяльнай афарбоўкаю і гратэскам вершы Алея Разанава і Зянона:

ЖНІВЕНЬСКІ ДЗЕНЬ

Зайшоў у кавярню няўзнак.
Выйшаў — аж мокры асфальт.
Пералётны дожджык.

Але большасьць падобных трохрадкоўяў не вытрымлівала кананічную колькасьць складоў (5-7-5), або ігнаравала абавязковыя для хоку эстэтычныя патрабаваньні. А тэкст хоку мусіць адпавядаць шматлікім характарыстыкам. Некаторыя зь іх былі кананізаваныя яшчэ да XVII ст... ЮГЭН — запаветная прыгажосьць, глыбіня, неспазнанасьць да канца, існасьць, нязьменнасьць... МАКОТО — ісьціна, праўда, сапраўдная справа, сапраўднае слова... АВАРЭ — зачараваньне, чароўнасьць.., МОНО - НО АВАРЭ — чароўнасьць рэчаў... Пазьней Мацуа Басё распрацаваў дадатковыя эстэтычныя каноны складаньня хоку. На яго думку, верш мусіў увасабляць наступнае: САТОРЫ — азарэньне, прасьветленасьць, духоўнае абуджэньне, раптоўнае адкрыцьцё ісьціны, яднаньне душы чалавека і прыроды, адсутнасьць рацыянальнага элемэнту ў творчым працэсе... САБІ — паціна, сьлед мінулага, заміраньне, пацямненьне, згасаньне, адзінота, самота, прасьветленая адзінотнасьць, адчужанасьць ад штодзённай мітусьні, затуханьне сьвядомасьці... КАРУМІ — лёгкасьць... ХОСОМІ — тонкасьць, ломкасьць, крохкасьць, маркота, сум, спачуваньне... ФУЭКІ-РЮКО — нязьменная зьменлівасьць, адзінства руху і спакою, хамэлеоннасьць... ФУГА-НО МАКОТО — сапраўднасьць прыгажосьці...

У часы Басё, калі складалася кананічная форма хоку, да прыкладу, такая:

*

Зачынілася
Ракавіна марская —
Цяжкая сьпёка, —

існавала нязьменная зьмена прыроды, паступовае й непераадольнае кола пораў году, за вясною прыходзіла лета, і пазначэньне сэзонаў было для верша абавязковым. Цяпер, напрыканцы XX ст. з вынаходніцтвам хуткасных апаратаў для перамяшчэньня можна зьмяніць асабіста для сябе чаргаваньне пораў году, памяняць марозную зіму на сьпякотнае лета і сустрэць Новы год не ў засьнежаным Менску, а ў сьпякотным Бангкоку. Іншы час, новая нязьменная зьменлівасьць — ФУЭКІ-РЮКО чакае сваіх паэтаў і сваіх канонаў хоку.

А зборнік «Круглы год» складзены з хоку беларускіх паэтаў — невялікі востраў у хуткай плыні сучаснасьці...

Фрагмэнт зборніка і прапаноўваецца чытачам «Нашай Нівы».

**Адам Глёбус**

### Максім ТАНК

*

Над Фудзіямай —
драконы бліскавіцаў.
Цьвіце сакура.

*

Вакно. Крыж рамы.
Чутна, як муха гудзе.
Стол. Посуд пусты.

### Уладзімер АРЛОЎ

*

Там, на гарышчы,
у пушцы з жаўнерыкамі
жыве маленства.

*

Дабрыдзень, хвоі!
Ігліца пад нагамі —
як былыя дні.

### Уладзімер СЬЦЯПАН

*

Цёмна ў пакоі.
Падае, падае сьнег
на суседні дах.

*

Ліхтар згасае —
ярчэе кола поўні
на голым дрэве.

*

Жоўтыя зоры —
на чорнай вадзе ляжаць —
з клёнаў упалі.

*

Галіну крануў —
падае ліст барвовы
на чорны асфальт.

*

Доўга прымерваў
руды вялікі шынэль...
Сябе не пазнаў.

*

Старэнькі ровар,
валізка з хлебам, кошык —
стаяць ля слупа.

### Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

*

Прачнуўся ўранку.
Млосна. Смага. Горкі пах.
Стол непрыбраны.

*

Пакой паўзмрочны.
Лунае цюль фіранкі.
Вільготны вецер.

*

Патушыў сьвятло
і пачуў — сьнег падае.
Ноч па-над краем.

*

Апала вішня —
і ў шарую гадзіну
дзень абярнуўся.

*

Імжысты ранак...
Зноў малюю краявід
на пустым пляжы.

*

Паліклініка...
У стомленых паглядах —
цяжар чаканьня.

### Максім КЛІМКОВІЧ

*

Паліць лістоту
сумны маўклівы дворнік.
Хлебны пах клёна.

*

Чакаю гасьцей.
Халодны гузік званка
хто першы кране?..

*

Сягоньня дзеці
не знайшлі яблыкаў
у старым садзе.

*

Над старой студняй
я адпусьціў каменьчык,
чаканьне ўсплёска.

*

Як доўга ехаў
Праз гарады, праз вёскі
адной дарогай.

*

Зімнае неба.
З трэскам падае на дол
празрысты яблык.

*

Адчыніў вакно:
гукі аўтамабіляў,
халодны вецер...

### Віктар ШНІП

*

Высокая трава.
Плыве па зялёнай вадзе
пажоўклае лісьце.

*

Малады голуб
лётае за матылём.
Ціхія дрэвы.

*

Жанчыны рвуць лён.
Шэры жаўрук у небе
гаворыць з хмарай.

### Міраслаў ШАЙБАК

*

Лапкамі елак
свой пакой упрыгожыў,
сьвяточны настрой.

*

Адчыніў дзьверы:
варушыцца на сходах
мой цень зламаны.

*

У качагарцы
прытуліўся да печкі —
прыемна, цёпла.

*

Сьвяточная ноч,
Грукае ў шыбу маю
толькі вятрыска.

*

У качагарку
спусьціўся, але печка
ужо не гарыць.

*

Залаты жучок
раптам мільгануў і зьнік —
вецер у траве.

*

Чарку гарэлкі
наліў і выпіў адзін...
Ня маю сябра.

### Андрэй АНТОНАЎ

*

Зялёная рунь
і неба... Колер яе
вачэй ня ўспомню.

*

Над мёртвай коткай
дзяўчо, укленчыўшы плача.
Вечаровы час.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

